Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 9—(49). Вільня, 7 сакавіка 1928 году Год II.



# БЕЛАР[...]І ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Мастовая вул. № 9. кв 3. Телефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю староньку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8— 20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Першыя угодкі—першая пабеда.

Прайшоў год. 7 сакавіка 1927 г. вышаў першы нумар нашае газэты „Б. Д.", а сягодня, 7 сакавіка 1928 г. мы падлічаемо вынікі выбараў у Польскі Сойм, аглядаемося назад на пройдзены намі кароткі шлях,— шукаем у мінулай сваёй працы памылак, з задавальненьнем адзначаемо нашыя дасягненьні. Нашыя палітычныя праціўнікі і ворагі, — асабліва-ж з беларускага абозу, з самага пачатку прарочылі нам банкруцтва і няўдачы, — **а сягодня праз год, 4 сакавіка добрая палова беларускага сялянства,—найбольш разумная і паважная паслухала нас,—можам гэта сьмела сказаць, пайшла за нашым голасам і перад усім сьветам задэманстравала прыхільнасьць да нашых думак, да нашых ідэй — аддаючы свае галасы за № 1, за ідэю супрацоўніцтва народаў Польшчы.**

Пабеда № 1 — факт, каторага ніхто ня можа скрэсьліць. **З гордасьцю можам сказаць, што пабеда гэтая ёсьць адначасна і нашаю пабедаю,** бо з усіх беларускіх палітычных кірункаў толькі мы зразумелі і паверылі ў той **пералом**, які павінен быў наступіць пасьля маёвага перавароту ў адносінах паміж народамі Польшчы і ў адносінах Польскае Дзяржавы да беларускага народу.

Высунуўшы на першы плян лёзунг братэрства і супрацоўніцтва Палякоў і Беларусаў, выступаючы проціў „Блёку Нацыянальных Меншасьцяў", як проціў гіблае арганізацыі нацыянальнага байкоту і ізоляцыі, лічачы гэты блёк зьяваю няглыбокага вузкага, шкоднага нацыяналізму, зьяваю, якая ў польскім жыцьці носіць назоў „эндэцыі",— змагаючыся з гэтым блёкам Ярэміча і Рагулі, мы не памыліліся.—Сягодня, праз год мы бачым, што гістарычны працэс у Польшчы пайшоў так, як мы накрэсьлілі яго ў першых нумарох „Беларускага Дня" — бачымо, што для нацыянальнага байкоту і шовінізму ў Польшчы збанкрутавала. Праўда, № 18 здабыў яшчэ дзе-нідзе сабе беларускія галасы, — але гэта ўжо далёка ня тое, што было ў 1922 годзе, бо гэты блёк нацыянальнага байкоту ужо разьбіты і ня маець популярнасьці ў народзе. Далейшаю нашаю задачаю на будучыну будзе аканчальна змаганне „Блёк Нацыянальных Меншасьцяў", як грамадзкую і палітычную зьяву, прынёсшую столькі шкоды для беларускага народу.

Далей „Грамада". — З самага пачатку мы востра выступілі проціў яе,—як проціў маскоўскае спрытнае інтрыгі, як проціў масовае правакацыі.—Цэлы год у сваёй газэце мы вялі з „грамадаўшчынай" змаганьне, тлумачачы народу нягодныя замеры маскоўскіх імпэрыялістых выкарыстаць беларусаў, як гарматнае мяса. І сягодня мы бачым,—што і ў гэтай справе таксама не памыліліся. Грамада хоць не сканала яшчэ,— але яна канае як кірунак палітычны, як зьява, як сіла. Разьбіўшыся на некалькі групаў,—яна канчаець сваё бясслаўнае жыцьцё, здыхае, а народныя масы адступаюцца ад Грамады, як ад чумы і заразы. Лепшым до-

казам гэтаму зьяўляецца факт, што галасамі беларусаў у Лідзкім вокрузе праходзяць чатыры паслы з № 1, у Наваградзкім вокрузе тры паслы з № 1, у Горадні таксама тры паслы.

Беларускае сялянства галасавала ў Сойм за № 1 не таму, што на гэтым сьпіску сталі тыя, ці іншыя асобы. Менш за ўсё, нам здаецца, аб гэтым думаў беларускі выбаршчык,—а калі галасаваў,—то толькі дзеля таго, каб **падкрэсьліць** сваю лёяльнасьць да незалежнае, маладое Польскае Дзяржавы, **каб падкрэсьліць** свае сымпатыі да яе Тварца, да Маршалка Пілсудскага, да польскага народу, **і разьбіць ушчэнт тую паскудную легэнду аб беларусах, аўторамі якое з'яўляюцца эндэкі і камуністыя** і якая палягаець на тым, што **ўсе беларусы** бяз розьніцы з'яўляюцца ворагамі Польшчы і яе адраджэньня.

Беларускі селянін адказаў на гэты закід эндэкаў тым, што ня даў ім ніводнага голасу і ў палове, ў большай палове сваей зусім адвярнуўся ад „Грамады". Такі сэнс і сэкрэт пабеды № 1—на нашых літоўска-беларускіх землях. Ня будзем скромнікамі, падобнымі да нявінных дзяўчынак. Без „Бел. Дня", без яго штодзеннай працы ў працягу цэлага году, без яго прапаганды, нам здаецца, не магло-б стацца тое, што сталася падчас выбараў у Польскі Сойм, ня было-б такога трыумфальнага паходу № 1 праз беларускую вёску. І калі сягодня, ў першыя ўгодкі свайго істнаваньня, мы гаворым аб гэтым, як аб сваей першай пабедзе над сваімі праціўнікамі, — над „Блёкам Нацыянальных Меншасьцяў" і „Грамадою",—то толькі дзеля таго, каб падкрэсьліць, што шлях, год таму назад выбраны „Бел. Днём", шлях барацьбы з маскоўскім чырвоным камунізмам Грамады і дзікім шовінізмам рэпрэзэнтантаў блёку нац. меншасьцяў, шлях пропаведзі шчырага супрацоўніцтва і братэрства народаў Літоўска-Беларускага Краю, зьяўляецца шляхам правідловым і знаходзіць спачуцьцё і послух сярод народных гушчаў.

Да поўнае пабеды нашае яшчэ вельмі далёка. Наперадзе яшчэ шмат упорнае працы і перашкодаў.

Мандаты ў Польскі Сойм нас менш цікавілі, чым праца ў краі і мы не таргаваліся за іх. Мы задаволены толькі адным. На працягу першага году мы маем **вялікае дасягненьне і вытрымалі палітычны экзамен, які застаўлены быў нам жыцьцём**. У самую крызычную, пераломную часіну, **калі трэ было тырашаць лёсы краю, наш голас, наш кліч не вастаўся адзінокім—яго пачулі беларускія народныя масы.** Палова беларускага народу сягодня думаець і ідзець разам з намі.—Другую палову трэба праканаць у правідловасьці выбранага намі шляху. Вось задача, якая стаіць перад намі і нашымі аднадумцамі напярэдадні новага, другога году нашае працы. Няхай жыве „Б. Д.!" Няхай нясе сьвятло ў беларускую вёску, ў беларускія народныя масы.—Няхай згінуць усе сьвядомыя і несьвядомыя ворагі нашага краю, нашага адраджэньня і вызваленьня.

---

# Склад новага польскага Сойму.

## Вынікі выбараў.

Паводлуг апошніх неофіцыяльных вестак паданых праз радыё — з 64 выбарчых акругоў, — новы Сойм будзе мець наступны склад:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Сьсак №** | **1** | **даў — — — — — —** | **130 паслоў** |
| „ „ | **2** | **P. P. S. (соцыялісты)** | **63 „** |
| „ „ | **3** | **„Вызваленьне" — —** | **37 „** |
| „ „ | **7** | **N. P. R. — — — — —** | **8 „** |
| „ „ | **8** | **Украінскі Сельроб (прав.)** | **5 „** |
| „ „ | **10** | **Stronnictwo Chłopskie** | **25 „** |
| „ „ | **12** | **Партыя кс. Оконя —** | **1 „** |
| „ „ | **13** | **Камуністыя — — —** | **5 „** |
| „ „ | **14** | **Związek Chłopski — —** | **3 „** |
| „ „ | **17** | **Жыд. Нац. Парт. (сыаністы)** | **6 „** |
| „ „ | **18** | **Блёк Нац. Меншасьцяў** | **57 „** |
| „ „ | **19** | **Украінскі Сельроб (лев.)** | **4 „** |
| „ „ | **20** | **P. H. O. — — — — —** | **1 „** |
| „ „ | **21** | **Тое самае, што і № 1 на Пазнань — —** | **5 „** |
| „ „ | **22** | **Укр. Блёк Соцыялістычны Сял.-Раб. Партыі** | **9 „** |
| „ „ | **24** | **Эндэкі — — — —** | **37 „** |
| „ „ | **25** | **Хадэкі і Пяст — —** | **33 „** |
| **Розныя дробныя групы** | | **— — —** | **11 „** |

Такім чынам і ў новым польскім Сойме будзе шмат партыяў — але найбольшую ролю будзе адыгрываць „Блёк Супрацоўніцтва з Урадам", які хоць і ня маець большасьці ў Сойме, — можа яе лёгка стварыць, бо да большасьці не хапае ўсяго толькі 87 паслоў. Калі-ж гэтае большасьці пад кіраўніцтвам № 1 стварыць ня ўдасца, калі перажыткі старога Сойму акажуцца яшчэ моцнымі, то трэба чакаць новага соймавага крызысу і новага конфлікту Сойму з Урадам Маршалка Пілсудскага, вынікі якога сягоньня яшчэ трудна прадбачыць.

---

# № 1 Беларускія Выбаршчыкі ў Сэнат! № 1

Дзень 4-га сакавіка, дзень выбараў у Сойм прынёс вялікую пабеду сьпіску № 1.

Са сьпіску гэтага ў новым Сойме будзе 137 паслоў, значыць бяз мала адна трэцьця часьць новага Сойму будзе складацца з людзей, якія будуць апорай Ураду Маршалка Пілсудскага ў яго творчай працы, над падняцьцем дабрабыту шырокіх народных гушчаў, засяляючых абшары Польскае Дзяржавы.

Грамадзянства нашае зямелькі патрапіла ацаніць гэную працу Ураду, Пасылаючы з Віленскага ваяводзтва па сьпіску № 1 (Бесп. Блёку Супрацоўніцтва з Урадам Маршалка Пілсудскага) на восемнаццаць, амаль палову, бо восем паслоў.

Гэткім чынам ідэя творчай працы, пад кіраўніцтвам Маршалка Пілсудскага у нашай зямельцы атрымала поўны трыумф над ілжой, дэмагогіяй і брахнёй.

**Добрая палова беларускіх сялян, а месцамі цэлыя беларускія гміны 4 сакавіка галасавалі за № 1** — даказаўшы гэтым сваю палітычную і грамадзкую дасьпеласьць, бо толькі № 1 гарантуе беларусам не па паперы, а на дзеле паправу гаспадарчага і культурнага жыцьця ў Краі і спаўненьне справядлівых дамаганьняў беларускага народу.

11 сакавіка (марца) адбудуцца выбары ў Сэнат. Гэты дзень бязумоўна будзе днём новага трыумфу для сьпіску № 1.

Выбары ў сэнат маюць ня меншае значэньне, чым выбары ў Сойм, і нашае сялянства бязумоўна не прапусьціць гэнага дня і ў дзень 11 сакавіка, аддаючы свае галасы за сьпісак № 1 узмацуе пабеду, атрыманую пры выбарах у Сойм.

Паводлуг выбарчага закону ўся Віленшчына пасылае ў Сэнат толькі 4-х сэнатараў. Пры гэткай малой колькасьці розныя дробныя групы і групкі, якія патрапілі правясьці ў Сойм толькі аднаго ці двух паслоў, у Сэнат не патрапяць правясьці а ніводнага і дзеля гэтага пабеда сьпіску № 1 забясьпечана, тым болей, што на сьпіску № 1 у Віленскім ваяводстве стаіць вядомы прыхільнік Беларускага Народу **Вітольд Абрамовіч**, старшыня Краёвага Народнага Саюзу Літоўска-Беларускіх Земляў, заслужаны і ўсімі шанаваны палітычны і грамадзкі дзеяч.

На мандат у Сэнаце мае прэтэнсіі так сама сьпісак № 18, на першым месцы каторага стаіць вядомы расейскі чорнасоценьнік, быўшы сябра Саюзу Міхаіла Архангела Багдановіч Вячэслаў. Ведама, беларускае сялянства за гэты чужы яму сьпісак, ня дасьць ніводнага голасу і гэтым чынам яшчэ раз дакажа, што рукамі беларускага сялянства ня можна заграбаць вуглёў у расейскія печкі.

Але, каб пабеда сьпіску № 1 была поўнай, трэба, каб **усё сялянства, як адзін, аддало свае галасы за сьпісак № 1**, падкрэсьліўшы гэтым чынам, што тая невялікая частка галасоў сялянскіх, якая пры выбарах у Сойм пайшла на іншыя сьпіскі, выпала найбольш на долю недарослай да 30-ёх год сялянскае моладзі, каторая ня гэтак добра, як сталыя людзі, ведаець жыцьцё і салодкія песьні розных дэмагогаў, гэных ваўкоў у авечай скуры, прыняла за чыстую праўду.

**Сяляне, выбаршчыкі у Сэнат!**

**Ніводнага голасу ашуканцам народу!**

# Усе, як адзін, аддайце свае галасы за сьпісак

# № 1

# Як атрымаць пазыку на куплю зямлі з Дзяржаўнага Зямельнага Банку?

Паводле дзеючых у нас законаў, штогоду мае пераходзіць у рукі малазямельных сялян 200.000 дзесяцін абшарніцкай зямлі. Зямля гэтая прадаецца абшарнікамі і толькі ў выпадку нераспрадажы ўстаноўленае законам нормы, Зямельны Урад прымусова выкупляе колькасьць зямлі, якое не хватае да ўстаноўленае нормы.

Ведама ўсім, што беларускае сялянства душыцца папросту ў сваём безьзямельлі і малазямельлі. Каб-жа купіць зямлю не хватае часта грошай. У гэтым выпадку на падмогу прыходзіць Урад і выдае пазыкі на куплю зямлі з Дзяржаўнага Зямельнага Банку.

Пазыкі гэтыя доўгасрочныя, выдаюцца на 10, 20 і 30 гадоў, апрацантаваныя на 8% у год. Сплачваць іх трэба штопаўгода невялікімі часьцямі, якія выносяць:

При пазыцы 10 летняй па 7 зл. 50 гр. (у золаце)
„ „ 20 „ „ 5 зл. 6 гр. „
„ „ 30 „ „ 4 зл 43 гр. „
ад кожных 100 зл. пазыкі.

Сплата выпадае 1 красавіка, 1 кастрычніка кожнага году.

Дзяржаўны Зямельны Банк дае пазыку на на куплю такіх грунтаў, якія маюць устаноўленую ў судзе *гіпотэку*. Калі абшарніцкая зямля гэтае гіпотэкі ня мае, дык пазыкі нельга дастаць.

Дзеля гэтага сяляне, купляючы зямлю, павінны добра выведацца ў абшарніка, які прадае зямлю, ці такая гіпотэка устаноўлена. Якія-ж сумы выдае Банк, як пазыку?

Пазыка даецца на куплю участкаў зямлі ня большых як 35 дзесяцін. Пры гэтым Банк дае толькі 2/3 часьці вартасьці зямлі, паводле шацунку Дзяржаўнага Зямельнага Банку. Шацунак гэты нявысокі, дык выходзе так, што можна ўзяць з Банку толькі 1/2 сумы, якую прыходзіцца плаціць абшарніку за зямлю. І ў жадным выпадку нельга дастаць з Банку, як пазыку, ўсю суму, плачаную абшарніку, калі набыўца зямлі ня мае сваіх грошай.

Хацеўшы атрымаць пазыку на куплю зямлі, трэба паступаць так: Абшарнік, які прадае зямлю мусіць атрымаць дазвол на прадажу ад Зямельнага Акружнога Ураду. Пасьля ён мусіць вызваць казённага ацэншчыка з Зямельнага Банку, аплаціць за ацэнку і мець пратакол гэтае ацэнкі, з якога ўжо відаць, колькі грошай можа пазычыць Банк набыўцу вучастку зямлі.

Апрача таго, прадавец мусіць прадставіць у Банк плян маемасьці і доказ таго, што зямля яго мае гіпотэку і атрымаць з Дзяржаўнага Зямельнага Банку пасьведчаньне, што пазыка з Банку можа быць дадзена. Толькі тады набыўца можа даваць прадаўцу задатак, але пры гэтым *трэба абавязкова задатачную запісь рабіць у натарыюса.*

Маючы дагавор з прадаўцом аб замеранай куплі зямлі, набыўца толькі цяпер, калі ведае ўсё гэта, павінен зьвярнуцца ў Зямельны Банк і прасіць пазыкі на куплю зямлі. Зямля купленая мусіць быць ачышчана ад сэрвітутаў.

Вельмі часта нашых сялян ашукваюць розныя пасрэднікі, якія суляць дапамогу пры атрыманьні пазыкі з Банку. Сяляне—асьцерагайцеся цёмных і няведамых пасрэднікаў, якія толькі дарма сьцягнуць з вас лішнія грошы. Найлепш пісьменна зварочвайцеся да Зямельных Дзяржаў-

---

# Паход бальшавікоў проціў сялянства ў Б. С. С. Р.

За дзесяць гадоў кіраваньня жыцьцём вялікае дзяржавы бальшавікі выказалі над'звычайную сілу і краважаднасьць. Задаўшыся мэтай утрымацца пры ўладзе, яны ўмелі зьнішчыць усіх сваіх палітычных праціўнікаў, ад манархістаў пачынаючы і на анархістах канчаючы. Аб'явіўшы лёзунг „хто ня з намі, той проціў нас“, бальшавікі зьнішчылі істнаваньне ўсіх іншых палітычных партыяў, заслаўшы дзеячоў гэтых партыяў у катаргі, або проста перабіўшы іх у падвалах чрэзвычайкаў.

Бальшавікі аграбілі ўсе маетныя даваенныя клясы, зруйнавалі прыватны промысел і гандаль, скасавалі прыватную ўласнасьць. Пару гадоў трымаўся Ленін чыстаты камуністычнае навукі, пакуль хватала на дзяржаўныя выдаткі награбленага ў буржуазіі багацьця — у золаце і дарагіх каменьнях.

Выдаўшы на агітацыю ў краі і заграніцай гэтыя запасы, бальшавікі пазабіралі ўсе цэннасьці ў золаце і срэбры з цэркваў ды касьцёлаў і аб'явілі новую палітыку ў галіне эканамічнага жыцьця, дапусьціўшы прыватны гандаль. Праўда, што гандляваць сталі новыя паны палажэньня — камісары ды бальшавіцкія ўрадоўцы, найбольш жыды, бо расейскае купецтва аказалася зусім зруйнованым і ня верыла ў моц новых дэкрэтаў, якія мелі на мэце прыгатаваць прыватныя капіталы для новага рабунку ізноў на падставе гэтых самых бальшавіцкіх дэкрэтаў.

Промысел—фабрыкі і гандаль асталіся ў руках дзяржавы, якая назначала ў фабрыкі дырэктароў і ўсю службу, а работнікаў наймала на работу, пазбавіўшы іх права забастоўкі, за якую ў бальшавікоў судзяць і караюць, як за антыдзяржаўную работу. І вышла так, што ў „праслаўленай“ рабоча-сялянскай дзяржаве работнікі працуюць па 10-12 гадзінаў на добу, атрымліваючы такую нэндзную плату, якой не хапае на найпатрабнейшыя выдаткі. А дамагацца папravы свайго быту нельга, бо за забастоўку караюць расстрэлам. З другога боку, зьнішчыўшы даваенны промысел, бальшавікі новых фабрык не пабудавалі і ў сваіх фабрыках ня здолеюць вытварыць столькі фабрычных прадуктаў, колькі іх патрабуе насяленьне. Тавары гэтыя трэба ўвозіць з-заграніцы, а там трэба плаціць за іх заграмічнымі грашыма або і золатам. Да таго-ж гэтыя тавары купляюць чыноўнікі, бо замежны гандаль у руках дзяржавы, і яны пры гэтым страшэнна абкрадаюць скарб, яшчэ больш, чымся за царскіх часоў.

Каб-жа мець чым плаціць за куплены заграніцай тавар, трэба вывезьці з Расеі заграніцу сваіх тавараў, бо інакш ня будзе чым плаціць, золата столькі ў Расеі няма, а чырвонцаў папяровых заграніцай не бяруць.

Яшчэ да вайны з Расеі вывозілася каля 600, а то і 900 мільёнаў пудоў збожжа. І вось бальшавікі пачалі гуляць у гэты гандаль сялянскім збожжам. Маючы гандаль у сваіх руках, яны аб'явілі

ных Банкаў і адтуль атрымаеце адказ. Ехаць кожны раз у Банк ня радзім, бо гэта таксама лішняя трата грошай на дарогу. Сяляне віленскага і навагрудзкага ваяводзтваў, а таксама з паветаў Горадзенскага і Ваўкавыскага павінны зварочвацца з запытаньнямі да Дзяржаўнага Зямельнага Банку ў Вільні (Пагулянка Вялікая № 24). Сяляне, якія жывуць у Палескім ваяводзтве, маюць пісаць у Дзяржаўны Зямельны Банк у Луцку (Ягельлёнская вул. № 107). Сяляне Беластоцкага ваяводзтва, апрача Горадзенскага і Ваўкавыскага паветаў хай пішуць у Зямельны Дзяржаўны Банк у Варшаве (вул. Траўгутта № 11). Атрымаўшы ваш ліст, Банк ахвотна дае адказ, з якога даведаецеся, якім чынам, без пасрэднікаў, атрымаць можна пазыку з Зямельнага Банку. Пішучы ў Банк, трэба ўказваць ад каго і з якога двара хочаце купіць зямлю.

С.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Абцінка садовых дрэваў.

Пасьля працаў, пададзеных у папярэдніх нумарох нашае газэты, якія робяцца раньняй вясной у садзе, можам прыступіць яшчэ да адной ня менш важнай працы па дагляду за садовымі дрэвамі, — гэта да абцінкі садовых дрэваў, ці падчысткі кроны.

Гэтая абцінка дрэваў мае дзьве мэты: папершае, прадасьцерагчы правідловасьць кроны ў маладых дрэўцаў пасьля перасадкі іх у сад на сталае месца і, па-другое, мець уплыў на пладаношаньне.

Аб абцінцы дрэваў з мэтай прадасьцерагчы правідловасьць кроны, а таксама і падтрымоўваньня ў ёй патрэбнага парадку, мы ўжо гутарылі раней, што гэта праца—падчыстка кроны—павінна вясьціся ў канцы зімы—раньняй вясной.

Вядучы правідлова і ўмела абцінку, садавод можа зрабіць кроне садовага дрэва гэткую форму, што кожны сучок, кожны атожылак можа быць у самым найвыгаднейшым стане адносна сьвятла і цяпла, а гэта паможа стварыць здаровыя, добрыя рослыя дрэвы.

Гэткім чынам, вядучы працу-падчыстку кроны—патрэбна выкараніць усё тое, што можа пашкодзіць правідловасьці самай кроны і выклікаць часамі яе аднабаковасьць; дык пры гэтай працы трэба абцяць:

1) Сукі, якія зашмат густа растуць, углыбляючыся ў крону, даючы цень і шкодзячы стварэньню новых сучкоў.

2) Усе сучкі, якія сходзяцца адзін з адным і перакрыжоўваюцца між сабой.

3) Увесь сушнік, паламаныя і хворыя сучкі і

4) Вадзяныя пабегі — „ваўчкі", калі яны не патрэбны для папаўненьня пустых месцаў кроны ці для замяшчэньня дужа старых ад'жыўшых сукоў.

---

„цьвёрдыя" цэны на збожжа і ўсялякімі спосабамі змушалі сялянства прадаваць па гэтых, вельмі нізкіх цэнах, збожжа да ўрадавых крамаў.

Аднак аказалася, што нават спакойныя расейскія сяляне, хоць і цёмныя яны, але пазналіся на абмане.

Бо відзячы, што за пуд праданага па казённай цане збожжа, можна купіць толькі $1/2$ фунта цукру, перасталі прадаваць бальшавіком сваё жыта і пшаніцу. І тут апынуліся бальшавікі ў тупіку, бо ня стала збожжа на хлеб для насельніцтва ў гарадох, а ня толькі на вываз заграніцу. І цяпер, побач з „опозыцыяй Троцкага", новая бяда ў бальшавікоў — г. зв. „хлебны крызыс".

Апошняе пісьмо карэспондэнта бэрлінскае газэты Шэффэра апісвае ў газэце „Berliner Tageblatt" „хлебны крызыс", які перажывае ўрад Сталіна.

Хлеб трэба вывозіць і прадаваць. Селянін упёрся і ня хоча вязьці сваё збожжа ў савецкія крамы і аддаваць яго па казённых цэнах. Пачалося гэта — піша Шэффэр — не ад учарайшага дня. Ужо ў 1925-26 годзе трэба было вывезьці заграніцу 5 мільёнаў тоннаў (300 міл. пуд.), а ўдалося сорбраць толькі палову. У наступным 1926-27 годзе пры вялікіх стараньнях вывезена заграніцу 180 мільёнаў пудоў збожжа. А да вайны Расея вывозіла 600 мільёнаў. У гэтым 1928 г. за студзень месяц закуплена толькі 30 мільёнаў пудоў збожжа і да новага ўраджаю наўрад-ці гэтая лічба павялічыцца. Да ліпня 1928 г. яшчэ трэба сабраць ад сялян хоць 150 мільёнаў збожжа, каб не дапусьціць да голаду ў арміі і гарадох. А да гэтага яшчэ далёка і ці ўдасца сабраць патрэбны лік збожжа — вялікае пытаньне, якое выясьніцца ў лютым месяцы. Калі люты абмане, прыйдзецца ўжыць „над'звычайных" (чрэзвычайных!) мераў.

Шэффэр дзівіцца, дзеля чаго ўтварылася такое цяжкое палажэньне. Апошні ўраджай быў горшы, чымся папярэдні, але гэта не выясьняе недахвату збожжа ў аграмадным ліку 180 мільёнаў пудоў. Відаць, што вёска проста схавала збожжа і ня хоча яго прадаваць. „Смычка" вёскі з горадам не ўдалася. Селянін ня верыць гораду, бо гэты мала плаціць за збожжа і не дае ў абмен патрэбных тавараў. А дзеля гэтага вёска спыніла таваразамену. І вось трэба селяніна *змусіць* прадаваць сваё збожжа. З даньнем дня, пішуць бальшавікі, ёсьць „актыўнай сілай дзяржавы зламаць пасыўны опрацў сялян, пры гэтым ужываючы іншых спосабаў прынукі, як „эканамічная". Гэта будзе проба сілы для правячай цяпер групы ў Савецкай Расеі — піша Шэффэр.

За справу гэтую прыняліся з імпэтам, дзеячы і „ласкай і таскай". У вёскі перакінуты ўсе тавары з фабрычных складаў. А фабрыкі вырабляюць толькі на патрэбы вёскі. Робіцца адміністрацыйны націск на самую адміністрацыю перад усім: на савецкіх агентаў, на кіраўнікоў кооператываў і на казённых скупшчыкаў збожжа. Чуваць аб масавых звальненьнях з пасадаў і аб адданьні пад суд за нядбаласьць або за лішнюю стараннасьць. Казённыя скупшчыкі сьпярша ня мелі права аб'яжджаць вёскі, каб ня было подкупаў іх сялянамі, цяпер-жа выпушчана іх на вёскі, а „станоў-

Другія якія-колечы правілы дзеля вядзеньня абцінкі надта цяжка тут радзіць, дзеля таго, што гэта праца ў садзе лічыцца аднэй з галоўнейшых і каб яе навучыцца, патрэбна абавязкава практыка, а таксама трэба выпрацаваць у сабе навык да гэтак разумнай працы; тады ня будзе цяжка разабрацца, вядучы абцінку, дзе вырасшы лішнія і не на месцы атожылкі, якія абавязкава ўхіляюцца.

Што тычыцца абцінкі бакавых сучкоў, дык і тутака вельмі цяжка даць якую-колечы аканчальную раду, дзеля вядзеньня гэтай, вельмі важнай і неабходнай працы, і магчыма даць раду, каб не запамятаваць таго правіла, што сучкі ў маладых дрэўцаў трэба падцінаць даўжэй (разумеючы гэта так: абцінаць доўга—значыць адняць меншую частку сучка, а пакінуць большую) і радзей. Сучкі-ж у дрэваў сярэдняга веку і старэй трэба абцінаць карацей (сьцінаць большую частку сучка, і пакідаць меншую) і часьцей.

Адносна часу, як часта павінна вясьціся падчыстка кроны, магчыма сказаць, што разумнай абцінкай садавод можа кіраваць ростам і пладанашэньнем дрэва, а таксама гэтым давясьці яго да ўмяркованага росту, дык кожны год вялікай абцінкі вясьці ня будзе патрэбы, а яе магчыма будзе паўтараць пэрыядычна цераз 3—5 гадоў.

Часта сустракаецца, асабліва ў старых запушчаных садох, дзе мала зьвярталася ўвагі на добры дагляд за дрэвамі, крона так зарастае, што губляе ўсялякую правідловасьць і гэтым зьвўляе вялікі ўплыў на пладанашэньне самага дрэва; у тых вось выпадках умелай абцінкай магчыма ад'здаравіць дрэва і дабіцца да яго нармальнага росту, калі яно яшчэ пачне даваць добрыя плады, ад чаго можа падняцца і даходнасьць самага саду. Тут таксама немагчыма даць якіх колечы выразных правілаў для вядзеньня абцінкі; садаводу ўжо самому ў гэткіх выпадках вырашыць,—ці абцінаць усё на палову, ці менш, што будзе знаходзіцца ў залежнасьці ад веку дрэва і яго стану. Падобная мера, калі прыходзіцца прычыняцца да сільнай абцінкі ўсіх ці большасьці сукоў кроны, называецца ў практыцы маладжэньнем дрэваў. Часьцей усяго прымяняецца маладжэньне старых яблыняў, ужо аслабеўшых ад ураджаю. Наагул пры абцінцы дрэваў, калі прыходзіцца ўхіляць з кроны некатарыя часткі, садавод павінен быць асьцярожным і ўважлівым: ніколі ня трэба ўхіляць з дрэва жывых пладовых сучкоў (галінак) і старых пладоў, дзе-б яны ні знаходзіліся, інакш можна пашкодзіць для ўраджаю.

Большай увагі ад садаводаў вымагаюць для сябе ўспомненыя „ваўчкі", ці інакш „вадзяныя атожылкі"; іх таксама не заўсёды патрэбна ўхіляць. Магчыма кожны гаспадар можа іх адрозьніць на пладовым дрэве: яны, галоўным чынам, зьяўляюцца ў розных месцах кроны і часамі там, дзе не павінна было-б зьявіцца якім-колечы іншым атожылкам. Апрача гэтага, почкі на іх знаходзяцца вельмі далёка адна ад адной, і ў першым годзе свайго жыцьця яны маюць дужа сільны рост. Паяўленьне іх на садовым дрэве заўсёды паказвае на якое-колечы пашкоджаньне, а дзеля гэтага, перш чым іх ухіляць, садавод спачатку павінен знайсьці самае пашкоджаньне. Часамі паяўленьне „вадзяных" атожылкаў на дрэве можа выклікаць тое ці іншае пашкоджаньне кары яго; ў гэтых выпадках ваўчкі заўсёды зьяўляюцца ніжэй пашкоджанага

---

чае *ўгаварваньне*" сялян прадаваць збожжа, з папярэдняй разьведкай аб тым, хто хавае яго і дзе — стасуецца шырока.

Млыны паддадзены спэцыяльнаму кантролю, каб не малолі для селяніна больш збожжа, чымся яму патрэбна, коопэратывам забаронена прадаваць што-колечы сялянам, калі яны западозраны ў „укрываньні" хлеба. Справа закупкі збожжа аддадзена ў адны рукі, каб паасобныя арганізацыі ня шкодзілі конкурэнцыяй. Але галоўным конкурэнтам ёсьць прыватны гандляр, які плаціць за збожжа ўпяцера больш, чымся казна. І вось цяпер пачаўся паход проціў прыватнага гандляра, які „падымаець цэны" і шкодзіць „прэстыжу" дзяржавы. Пачынаецца новая хваля *антынэпу*, як у 1924 годзе.

Тое, што цяпер робіцца ў Савецкай Расеі, у разрэз расходзіцца з прыпушчэньнямі, што Сталін і яго кліка, звольніўшыся ад націску опозыцыі, вазьмуць курс направа. Наадварот, *цяпер узяты курс цьвёрдай рукі ў адносінах да сялянства.*

Як на гэта зарэагуе вёска, — аб гэтым Шэффэр гавора мала і ставіць пытаньне: — „Ці не пагражае гэтая барацьба небясьпекай для цэласьці савецкага строю? Ці ня скончыцца гэтая проба сіл пэўнай барацьбою за ўладу?"

А вёска ды й места так сама, здаецца, ужо пачынаюць ад'зывацца.

Маскоўскі корэспондэнт другой нямецкай газэты „Фоссішэ Цайтунг", Штэйн, малюе абразы цяперашняга жыцьця ў Расеі, якія напамінаюць найгоршыя гады савецкага рэжыму. „У Маскве ўсюды „хвасты" (чаргі) — перад казённымі і гарадзкімі крамамі і перад коопэратывамі. У траскучы мароз людзі стаяць гадзінамі перад крамамі, каб дастаць мяса, бульбы, мыла, цукру, мукі. Іншых прадуктаў зусім няма — няма і калейкаў дзеля іх набыцьця.

Няма хусьця (бялізны), няма мануфактуры. Усё гэта выслана ў вёскі, бо сяляне жадаюць тавараў, — інакш не прадаюць збожжа. А хлебазагатоўка йдзе так туга, што сам Сталін, які так неахвотна пакідаець Маскву, лічыў за неабходнае асабіста выехаць ў Сібір, каб „пасунуць" справу хлебазагатоўкі."

Штэйн дадае, што ўсё гэта ўсільвае опозыцыйныя настроі і так заканчвае сваю корэспондэнцыю: „Цень Троцкага носіцца над Масквою".

Так пішуць нямецкія корэспондэнты аб выпадках у Савецкай Расеі.

Толькі невядома, ці магутны гнеў расейскага сялянства не падымецца ўрэшце і проціў Сталіна і Троцкага разам з усімі іхнімі камісарамі і чрэзвычайкамі, якія абдзіраюць працоўнае сялянства і потым яго кормяцца ўжо столькі часу. Здаровы расейскі сялянскі розум пачынае думаць, ці ня досыць ужо гэтага панаваньня вулічнага зброду ў Расеі. А ад думкі аб гэтым толькі адзін шаг да „дзела", калі гэтая шайка сусьветных прахадзімцаў упадзе пад напорам вялікага народнага гневу расейскіх, украінскіх і беларускіх сялян, ад якіх цяпер камуністыя адбіраюць апошні пуд хлеба. Чым хутчэй, тым лепш! *С.*

месца, і іх пры падчыстцы кроны магчыма сагнаць. „Ваўчкі“ таксама могуць зьявіцца пасьля сільнай абцінкі, калі яна будзе зроблена няўмела, гэта будзе паказваць на парушаную раўнавагу між лістамі і карэньнямі; ў такім выпадку садавод павінен пакінуць некалькі атожылкаў, займаючых найвыгаднейшае месца ў кроне; можа быць яшчэ і гэткі выпадак, калі будзе неабходна пакінуць на дрэве ўсе „вадзяныя атожылкі“, каб памагчы яму адрасьціць згубленыя сучкі (галінкі). Гэта можа здарыцца ў гады, калі ад розных небясьпекаў (сьнегу, віхроў і інш.) згіне на дрэвах шмат сучкоў і г. д.

### Правіла для вядзеньня абцінкі.

Пры выпаўненьні самой абцінкі, асабліва таўсьцейшых сукоў і галінак трэба памятаваць наступныя правілы практычных садаводаў:

1) Калі пажадана зьніштожыць увесь сук, дык адпілоўваць яго трэба каля самай асновы, не пакідаючы ад яго нічога на дрэве; гэта робіцца, дзеля таго, што пакінены на дрэве каратыш, загніваецца і гніль гэту можа перадаць сьцяблу дрэва. Калі-ж вымагаецца зьніштожыць ня ўвесь сук, а толькі яго частку, дык сьцінаецца над якой-колечы здаровай галінкай, а не на месцы, дзе няма лістоў.

2) Пры адпілоўваньні тоўстых сукоў трэба старацца, каб плошча зрэзу была найменшая.

3) Пры адпілоўваньні таўстых сукоў можа яшчэ здарыцца і так, што перш чым піла пройдзе ўсю таўшчыню сука, сук надломіцца і можаададраць кару, а часам і абалонь, і вось каб гэтага ня сустрэнулася, дзеля меншай цяжкасьці, вялікшы сук адпілоўваецца за некалькі прыёмаў часткамі, ці спачатку падпілаваць яго зьнізу, а пасьля ўжо дакончыць зьверху, і

4) Зрэзы павінны быць гладкія, і калі яны зроблены пілой, дык шурпатая паверхня іх зроўніваецца вострым нажом; затым кожны зрэз трэба абавязкова замазаць садовай замазкай.

Пры падчыстцы кроны, калі прыходзіцца зьніштажаць некаторыя сучкі і галінкі, лепш працаваць удваіх і праца павінна быць падзелена гэтак: аднаму трэба сядзець на дрэве і сьпілоўваць ці зрэзваць усё тое, што яму будзе казаць другі, знаходзячыся на зямлі; пры гэтым першы працаўнік, які лезе на дрэва, каб не папсаваць кары, павінен мець боты з мягкай падошвай ці абуваць лапці.

### Інструмэнты для абцінкі дрэваў.

Неабходнымі інструмэнтамі пры падчыстцы кроны і наагул пры абцінцы садовых дрэваў будуць наступныя: садовыя нажы, ножніцы і піла. Садовы нож зьяўляецца неабходным інструмэнтам пры абцінцы садовага дрэва. Добры садовы ножык павінен быць масыўны, зроблены з лепшай сталі і з выгаднай моцнай ручкай.

Садовыя ножніцы таксама прадстаўляюць вельмі важны і неабходны інструмант; у прадажы яны ёсьць рознага ўстройства. Добрыя садовыя ножніцы павінны даваць гладкі абцін і каб ня сьціскалі сукоў; але якога-б яны ні былі ўстройства, гэтыя ножніцы,—зрэзы вельмі добра згладжваць садовым ножыкам.

Садовыя пілы прыходзіцца ўжываць для сьпілоўваньня больш таўстых сукоў.

Пры працы пілой у садзе патрэбна некаторая практыка, і, працуючы ёю, трэба заўсёды памятаваць вышэйпералічаныя правілы для абцінкі.

*С.*

---

## Морква (Daucus carota).

Моркву ўжо разводзілі ў садох і агародах старадаўныя грэкі і рымляне. Кармовая морква — найлепшы корм для быдла, коней і авец. Жарабяты і цяляты дастаючы па 10-20 фунт. у дзень на галаву, вельмі хутка растуць і маюць надта здаровы выгляд.

Малочныя каровы, якія дастаюць моркву, даюць вельмі дужа добрага малака, а масла іх прыемнага паху і мае жаўтаваты колер. Сала сьвіней, кормленых морквай, мае вельмі добры смак, так сама, як і мяса гусей, якія даставалі моркву. Гэтак-жа сама сталовая морква вельмі карысная для людзей, асабліва для малых дзяцей, якія, калі даваць уволю морквы, маюць надта здаровы выгляд, бо морква проста лечыць і памагае ад шмат якіх хваробаў.

Морква ўдаецца на ўсялякім грунце, абы добра аброблены і ўгноеным, але звычайна разводзіцца на другі год на гнаі.

Найлепш морква ўдаецца на *супясчаных* грунтох, багатых перагноем. З штучных гнаёў морква найбольш вымагае паташовае солі, якой даецца якіх 300 кгр. (18 пуд.) на гэктар.

Пасеў морквы робіцца самаю раньняю вясною, як толькі можна пачаць працу на агародзе, бо морква прымаразкаў не баіцца. Калі стаіць сухая пагода, то лепш сеяць сухім насеньнем; падчас, калі пасеў прыпазьніць, то трэба лепш сеяць мочаным насеньнем, нават прарослым, бо насеньне морквы звычайна надта доўга ня ўзыходзіць. Пасеў найлепш рабіць радамі-градусамі, усходы прарэджваць (прарываць) гэтак, каб расьліна знаходзілася адна ад аднае на якіх 20-30 сантым., тады заўсёды яна большая расьце. Моркву можна сеяць і на зіму, толькі трэба глядзець, каб усходы ня ўзышлі да зімы.

Выкопваць моркву з грунту ня трэба вельмі сьпяшацца, бо яна не баіцца маразоў, калі сядзіць у зямлі.

Насеньня морквы ў 10 грам. бывае да дзесятоў тысячаў і яна захоўвае сваю ўсходжасьць 2-4 гады, але лепш сеяць сьвежым насеньнем, праціраючы яго перад пасевам добра з сухім пяском, каб абцэрці вусікі і каб хутчэй насеньне прарастала.

На адзін гэктар патрабуецца насеньня да $3^1/_2$ кілегр., а на поўную граду да 20 мэтраў — 20 грамаў.

Збор сталовае морквы бывае да 1000 пуд. з гэктару, а кармавое ад 3000 пуд. да 4000 пуд.

Найлепшыя гатункі сталовае морквы:

„*Парыская*“ — кароценькая.

„*Галендэрская*“ — гэтак сама кароткая.

„*Каратэль*“ — раньняя чырвоная, паўдоўгая з малым сэрцам.

„*Нантская*“ — цыліндравая, чырвоная, добрая да перахаваньня.

З кармавых гатункаў:

„*Валерыя*“ — чырвоная, расьце вельмі вялікая.

*Я. Х.*

## Памідоры або таматы (Lycopersicum esculentum).

Памідоры альбо таматы — аднагадовая расьліна. Паходзячы з цёплых краёў, памідоры патрабуюць многа цяпла, сьвятла і часу для развою пладоў, дзеля чаго памідоры заўсёды высяваюць раньняю вясною ў парніках, або скрынях, напоўненых зямлёю, і трымаюць гэтыя скрыні ў пакоях пры вокнах. Як толькі наступае цёплая пагода, што ў нас бывае пераважна ў трауні месяцы, расаду памідораў высаджваюць у грунт.

Памідоры садзяць на градах або проста на грунце радамі ў 1 — $1\frac{1}{2}$ мэтра адзін ад аднаго, а самыя расьліны гэтак-жа сама ў $\frac{1}{2}$ — 1 мэтр адна ад аднае. Садзіць памідоры трэба лепш за ўсё каля сьцяны, якую добра абагравае сонца і ёсьць зацішак ад сіверных халодных ветроў.

Вельмі клусты або занадта ўгноены грунт пад памідоры не надаецца, бо яны тады вельмі дужа ідуць у рост лісьцьця і сьцёблаў. Перад высадкаю ў грунт, каб зьменшыць вельмі буйны рост памідораў, часамі трэба вырасшую расаду ў працягу паўтара-двух тыдняў, добра падсушыць, як бы падвяліць, што робіцца дзеля таго, каб выклікаць „адзеравеньне", г. зн. здзьвярдзеньне сьцябла, ад чаго памідоры заўсёды хутчэй даюць плады.

Як толькі вытварацца першыя завязі, расьліны прышчыпваюцца і абсыпаюцца, калі ж завязі пабольшаюць, то выбіраюць лепшыя чатыры атожылкі, якія пакідаюць расьці, а ўсю рэшту вырэзваюць або вышчыпваюць. Ужо пасьля завязі пладоў спыняюць паліўку, што робіцца дзеля таго, каб умеркаваць рост самых расьлін, каб хутчэй расьлі і сьпелі плады. Падчас, калі памідоры або таматы падрастуць і вытвараць ужо куст, то трэба памідоры прывязаць да палачкаў, зрабіўшы навокала куста, як-бы перакладзінкі ў клетку; таксама можна прывязваць і да працягнутага дроту.

Расьліны з недаразьвітымі і недасьпелымі пладамі лепш вырваць зусім і падвесіць у цёплым сонечным пакоі, ад чаго яны скарэй дасьпяваюць, чым зрываць і раскладваць па вокнах, ад чаго плады часта моршчацца і псуюцца. Часта адзін куст памідораў дае ў сярэднім 2 кілёграмы пладоў, так што збор памідораў з аднаго гэктару можа даходзіць ад 5000 кіл. да 16.000 кілёграмаў, (альбо ад 313 да 1000 пудоў).

На адну граду даўжынёю да 20 мэтраў і шырынёю ў $1\frac{1}{2}$ мэтра трэба насеньня памідораў якіх 10—20 грамаў, а ў дзесяцёх грамах насеньня іх бывае да 3500 штук.

Гатункаў памідораў налічваецца больш як 25, і з іх найлепш вядомыя:

**„Аліса Рузвэльт"**—гатунак раньні, які дае вялікія, круглыя, зусім гладкія цёмна чырвоныя плады.

**„Эксцэльсіор"**—з вялікімі гладкімі цёмна-пурпуровымі пладамі, якія надта далікатныя ў смаку.

**„Лукулус"**—вельмі распаўсюджаны гатунак, рана пасьпявае, ўраджайны сорт, дае круглыя гладкія плады.

**„Мікадо"**—гатунак раньні з вельмі вялікімі гладкімі пладамі.

**„Магнум-Бонум"**—раньні ўраджайны гатунак, які дае мясістыя і аграмадныя плады.

**„Кароль раньніх"**—плады чырвоныя, сярэдняй велічыні, гатунак ураджайны.

**„Пэрфэктіон"**—гатунак з чырвонымі гладкімі вялікімі пладамі.

**„Прэзыдэнт-Гарфэльт"**—дае самыя найбольшыя з усіх памідораў плады, але позна пасьпявае і патрабуе вельмі цёплага лета.

Усе памідоры плады па свайму хімічнаму складу вельмі спажытачны і карысны дзеля здароўя людзей. *Я. Х.*

---

## Цыбуля (Allium Cepa).

Цыбуля паходзіць з Малое Азіі, а пэўней за ўсё з Палестыны, адкуль яна разышлася па цэлым сьвеце. У дзікім відзе і цяпер цыбуля расьце ў Пэрсіі.

Цыбуля даволі разборчыва на грунт і лепш за ўсё яна ўдаецца на сугліністым грунце, добра перагноеным, або на грунтох мулаватых, прырэчных. Цыбуля ня зносіць грунтоў, якія робяць скарынку. Яна ня любіць сьвежага гною і пад цыбулю найлепш даваць конскі гной і кампост за год да пасадкі. Вельмі добра надаецца пад цыбулю гной курыны, які трэба добра патаўчы, вымяшаць з зямлёю, або распусьціць у бочцы вады і паліць грунт. Калі цыбулю пасадзіць на сьвежым і неперапрэўшым гнаі, то яна хутка загнівае, навет седзячы ў грунце і гэтак-жа сама скора псуецца падчас перахаваньня яе зімою.

Найлепшым месцам пад цыбулю будзе грунт, які выходзіць з пад капусты.

На чарназёме цыбуля таксама не ўдаецца, і там заўсёды трэба прымешваць гліны. На агародзе цыбуля любіць месца адкрытае, лепш за ўсё цёплыя рачныя даліны, дзе яна часта дае баечныя ўраджаі. Апрацоўка зямлі пад цыбулю павінна быць глыбокая, але дзеля таго, што яна ня зносіць асяданьня грунту, хоць і любіць пасадку ў сьвежазворную зямлю, трэба заўсёды зямлю прыкачваць або вальцаваць перад пасадкаю, каб грунт быў асеўшы.

Цыбулю можна разводзіць насеньнем, або цыбулькамі. Калі сеяць насеньнем, дык пасеў трэба рабіць густы, бо далёка ня ўсё насеньне ўзыходзіць. Гэтак-жа добра перад пасевам насеньне памачыць у працягу пары, а пасьля трэба добра палоць грады і ў сырое лета прыцінаць батву, каб задішне ня ішла ў пер'е, што робіцца гэтак у палове ліпня.

У першае лета цыбуля з сеянай выходзіць дробная, а зьбіраюць яе, калі шчыпяры пажоўкнуць. Перахаваўшы зіму на другую весну можна ўжо садзіць маленькія цыбулькі, каб атрымаць поўны збор цыбулі.

Садзіць трэба галоўкі цыбулі ня менш як 20—30 сантымэтраў (4—6) цаляў адна ад аднае. Садзіцца цыбуля па самую шыйку, як-бы трошкі ўціскаючы яе ў зямлю. Каб атрымліваць хутчэй шчыпяры, верх цыбулі трэба зрэзваць нажом, ад чаго больш бывае зялёных лістоў-трубак і яны хутчэй разьвіваюцца. Само насеньне цыбулі захоўвае сваю ўсходнасьць ня больш, як два гады, і яго трэба на 100 кв. мэтраў ня больш як 50 грамаў. Збор пасаджаных галовак з аднаго гэктару можа выдаць часта да 20.000 кілёгр. або 1250 пудоў.

**Гатункаў цыбулі даволі многа, а сярод іх найбольш вядомыя:**

**Галяндэрская белая**—жоўтага колеру, круглая, якая ў надта мокры год лёгка падгнівае.

**Мадэра**,—якая расьце надта вялікая, плоская і круглая, але зімою ня так лёгка даецца перахоўваць.

**Жалезная галава**—цёмна-жоўтая, плоская, вельмі далікатная ў смаку і расьце часта да $^1/_2$ кілёгр. адна галоўка, надаецца добра да перахоўваньня.

**Жытаўская**—жоўтая, круглая, вельмі вялікая і добрая да перахоўваньня.

**Магнум-бонум**—вялікая, чырвона-жоўтая, расьце добра і надаецца да перахаваньня.

**Малага-белая**—сачыстая і як-бы салодкая цыбуля, амаль зусім бяз цыбульнага паху. Расьце вялікая, як мадэра, але не заўсёды надаецца да перахаваньня.

З іншых гатункаў вядомы гэтак-жа добрыя: **цітаўская** — вялікая, круглая, жоўтая; затым **баўгарская**, пэнзенская і шмат іншых.

*Я. Х.*

## Капуста—(Brassica oleracea).

Белакачанная капуста — гэта двухгадовая расьліна, якая найлепш удаецца на добра ўгноенай зямлі і хутчэй на *глiністых* грунтох, чым на лёгкіх пясчаных. Капуста любіць навет і сьвежае ўгнаеньне, толькі калі даюць гной вясною, то лепш даваць добра перапрэўшы гной, бо на сьвежым гнаі капуста выдае вельмі многа шэрых лістоў і неахвотна завіваецца ў качаны, а расьце ўверх. На моцных глінiстых або тарфянiстых квасных грунтох трэба рабіць вапнаваньне грунтоў, хаця-б перад самаю пасадкаю капусты.

Разводзіцца капуста, як раньняя так і позьняя расадаю, якая дзеля раньніх гатункаў падгатаўляецца ў парнікох, а позьняя—проста высяваецца ў расадніках.

Да зямлі расадніку вельмі добра дадаваць тарфянае чорнае зямлі, ад чаго капуста надта добра разьвівае карэньчыкі. Расаду капусты ў расадніках ня трэба трымаць занадта сыра і цёпла, бо інакш сьцябло яе пачарнее, адзеравянее і з гэткае расады будзе мала карысьці. Гэтак-жа сама маладая расьлінка хутка дзеравянее, калі расада пасеяна надта рэдка.

На градкі расадніку, даўжынёю да 20 мэтраў і шырынёй да $1^1/_2$ мэтра, высяваецца нябольш 25 граммаў насеньня капусты.

Капусную расаду садзяць на грады, або проста на грунт у радкі - градусы пад той час, калі больш-менш установіцца цёплая пагода, хаця капусная расада ня вельмі баіцца лёгкіх ранкавых прымаразкаў. Капусту трэба садзіць адну ад другое ня менш, як у 50—70 сантым., што робіцца дзеля таго, каб хапіла больш месца для разьвіцьця качаноў і расла яна на нізкіх качанох. Садзіць трэба капусту ня інакш як пратнуўшы завостранаю палачкаю, таўшчынёю ў палец і даўжынёю, якіх 30 сант., ямку на грунце, ў якую і ўстаўляецца па каранёвую шыйку расьлінка расады. Тады карэньчыкі капусты ня будуць загінацца, як гэта часта бывае пры пасадцы пальцамі, і капуста хутчэй і лепш прымаецца і пачынае расьці. Адначасна зрабіўшы ямку і апусьціўшы расаду ў яе, з правага боку расьлінкі пратыкаюць ізноў наўскасяк ямку і прыціскаюць палачкаю ў зямлі расьлінку. Другая ямка больш-менш засыпаецца па прыцісканьні расьлінкі. Наагул гаворачы, капусту трэба садзіць гэтак, што калі пацягнуць расьлінку расады за два яе лісьцікі ў гару, яна лёгка ня вырывалася-б з зямлі, але і надта моцна прыціскаць у грунце ня трэба.

Пасаджаную капусту першыя дні, глядзячы па пагодзе, паліваюць вадою, што трэба рабіць лепш з лейкі з сіцечкам, або з кубка праз рэшата, каб не забіваць пухкасьці грунту і не вытвараць скарупы. Паліўку заўсёды лепш рабіць перад заходам сонца, а ня ўдзень, або раніцаю.

Калі расада капусты прыжывецца, праз які месяц робіцца першае акучваньне або абсыпка капусты да першых сподніх лісткоў; пад час, калі капуста падрасьце большая, робіцца, яшчэ раз другі абсыпаньне яе. Калі капуста навет зусім добра разрасьцецца, то венкавыя лісьцьця ламаць ня можна, як гэта некаторыя робяць, бо капуста ад гэтага застанаўліваецца ў росьце. Хаця капуста і любіць вільготную зямлю, але часта бывае, што ў дажджлівае лета ад лішняе сырасьці качаны капусты пачынаюць растрэсківацца.

Прыстанавіць гэта можна, калі рыдлёўкаю (лапаткаю) на якую цалю ад качана наўскасяк падрэзаць з аднаго боку карэньне капусты.

Нярэдка бывае, што капуста паражаецца асаблівою хваробаю: на карэньнях яе робяцца як-бы нейкія гузы, утаўшчэньні і тады расьліна чахне, корань перагнівае і, вядома, капуста прападае. Гэтая хвароба дзеля капусты вельмі заразьліва, вызываецца яна асаблівым грыбком — Plasmodiophora Brassica, — вядомым пад назваю „кіла“. Дзе яна зьявіцца, там часта прыходзіцца адказацца ад раьзвядзеньня капусты на гадоў тры на тым месцы. Дасьледамі ўстаноўлена, што кіла вельмі рэдка паяўляецца там, дзе грунт агароду быў вапнаваты. Дык вось найлепшым сродкам процiў „кілы“ будзе вапнаваньне агароду, даючы якіх 32 цэнтнары (каля 200 пуд.) вапны на гэктар. Навет калі паліць росчынаю вапны ўжо заражаную капусту, дык зараз-жа разваой гэнае хваробы прыстанаўліваецца. Бывае, што на капусту часта нападаюць зялёныя чэрві, якія маладыя лісьцьця зусім паядаюць. Як толькі яны зьявіліся, трэба сабраць гэтых чарвей з паўшклянкі, запарыць іх кіпятком і гэным настоем з дабаўкаю вады паліць усю капусту. Ад гэтага паху чэрві прападаюць. Гэтак-жа добра процiў чарвей паліваць капусту бурачным чырвоным квасам, або пасыпаць зразу праз рэшата попелам з печы. Што датычыцца ўгнаеньня пад капусту, то надта добра надаецца паліўка росчынаю чылійскае салетры, дзеля чаго бяруць на граду або на радок да 20 мэтраў — 100 грам. салетры, распушчанай у чатырох вёдрах вады і паліваюць грады, але перад гэным трэба паліць грады проста вадою. Калі здараецца, што зямля пад капусту пападае мала гнойная, добра даць пад яе штучных гнаёў, на першым пляне тамасыны пудоў 30—36, солі паташовай 12—18 пудоў і салетры чылійскай 3—6 пуд. Ураджай капусты з аднаго гэктара бывае ад 25 да 45.000 кілёграмаў, або ад 1440 да 3000 пудоў.

Усіх гатункаў белакачаннае капусты бывае да 30 адменаў, і ўсе яны дзеляцца на раннія, сярэднія і позьнія.

З раньніх гатункаў найбольш вядомыя: „Іорская“—з сьпічастымі качанамі, „Эрфуртская“,

з белымі малымі і круглымі качанамі, „Варшаўская раньняя“, „Экспрэс“ і інш.

Сярэдня-раньнія гатункі: „Каралёва торгу“ з круглымі да 4 кг. галоўкамі, „Бранка“ і др.

З позніх гатункаў: „Сабураўка“ дае вельмі вялікія качаны, але вымагае гэты сорт добрае культурнае зямлі: „Браўншвэйгская“ дае добрыя белагаловыя качаны і надаецца навет на бедных грунтох, добра зносіць халады.

„Грэцкая пудовая“ з вялікімі плоска-круглымі качанамі.

„Ульманаўска пудовая“, „Амагер“—вельмі добры гатунак з дацкіх сартоў і шмат інш.

*Я. Х.*

## Культура маку.

Мала які гатунак збожа дае такі добры даход, як умелая і на адпаведным месцы ўправа маку.

Як ведама звычайны мак (Papaver somniferum) мае вялікія белыя, чырвоныя або фіялетавыя кветкі і насеньне яго—мак (зярнята) знаходзяцца ў закрытых, або гэтак званых, сьляпых галоўках, якія пасярэдзіне падзелены перагародкамі. Ёсьць яшчэ гатунак маку (Papaver rhoeas)—мак самасейка або сыпучы мак, галоўкі якога падчас пасьпеваньня маюць шчыліны, праз якія мак і высыпаецца. Само насеньне маку, як у таго так і другога гатунку, бывае белага, сіняга, шэра-чорнага і др. колеру, але на рынку найбольш цэніцца мак белы, хаця ўправа яго больш трудная, бо ён вымагае вельмі добрага грунту. Дзеля нашых грунтоў, найбольш падходзіць пасеў *сіняга*, або галубога, маку, які менш вымагае ад почвы і клімату. Мак вымагае цёплага і даволі сухога клімату і найлепш удаецца на мяккай, перагноенай, суглiністай або пясчана-суглiністай зямлі; на цяжкіх-жа і сырых глiністых грунтох мак не ўдаецца. Почва пад мак павінна быць чыстая з старым запасам перагною, бо мак патрабуе многа кармовых сродкаў.

Ён добра ўдаецца і на сьвежых землях з-пад цаліны, або з-пад лесу, чыстых ад сорных траў і закрытых ад халодных і сухіх ветраў. Трэба *ўнікаць угнаеньня зямлі пад мак сьвежым гноем*, бо ад гэтага ён ідзе больш у лісьцё, як у галоўкі. Вельмі пажадана ёсьць даваць пад мак, як толькі згіне сьнег, якіх 200—300 кілёграмаў (12—18 пудоў) паташовай солі, і столькі-ж тамасыны. Гэтае ўгнаеньне лепш расьсеяць за тыдняў два да пасеву маку, пад час апошняе воркі поля або баранаваньня.

Араць поле пад мак трэба яшчэ з восені на глыбіню якіх 5—6 цаляў, (20—30 сант.), вясною даецца плыткая пад-арыўка і баранаваньне. Сеяць мак можна навет па сьнягу, або як толькі пачынае сходзіць сьнег. Калі пасьля зробіцца скарупа на грунце, трэба прайсьці поле катком (вальцам).

Сеюць мак у разброс і тады патрабуецца да аднаго пуда насеньня на гэктар, але гэты спосаб ня надта падходзіць. Найлепш сеяць мак у радкі (градусы), як бульбу на 40 — 50 сант. радок ад радка. Надта добра сеяць мак у радкох разам з морквою і тады кавалачак зямлі дае вялікую карысьць да і само абсыпаньне сошкаю радкоў добра надаецца і дзеля морквы і дзеля маку. Уся справа ў тым, што трэба трымаць пасеў морквы і маку рэдка на радкох і разоў два ўлетку апалоць. Перад пасевам маку бяруць бутэльку, насыпаюць у яе маку, ўстаўляюць у корак бутэлькі трубку з гусінага пяра, праз якую і высяваюць па радох мак. Пры радковым пасеве маку на гэктар патрабуецца якіх 4—7 кілягр. насеньня, якое трэба прыкрываць зусім лёгка ня больш $^1/_2$—1 сантымэтра зямлёю. Калі добра дапілнаваць абработку грунту пад мак, апалоць яго, абсыпаць і зрабіць прарыўку, каб ня густа рос, і калі дажджы і буры не пашкодзяць пад той час, як мак цьвіце, то ён часта дае 70—100 пудоў з гэктару зярнят маку, а навет часта былі выпадкі, што даваў і 120 пудоў з гэктару. Навет, калі-б быў кепскі дагляд або непадхадзячы грунт, і то мак дасьць 40—60 пуд. з гэктару, а прымаючы цану насеньня толькі па аднаму злотаму за фунт, сеяньне маку заўсёды лепш аплачваецца, як многіх другіх расьлінаў.

Мак дае тры вельмі цэнныя прадукты: макавы алей, адзін з найлепшых і смачнейшых алеяў, якога насеньне маку можа даць да 40—42%. Цэлае макавае насеньне ідзе на прыгатаўленьне розных пячэньняў, макам пасыпаюць булкі, з маку робяць макавае малако, а нават самыя выжымкі (жмыхі) макавыя, якія астаюцца пасьля выжыманьня алею, служаць дзеля вырабу танных гасьцінцаў.

Апрача таго ў цёплых краёх, як Індыі і Малой Азіі вельмі многа маку сеюць дзеля дабываньня з яго гэтак званага *Опіуму*, гандаль якім лічыцца на сотні тысяч пудоў у год. Трэба сказаць, што дабываць і гандляваць опіумам у Эўропе вельмі сурова забаронена, бо гэта атрута.

Мак расьце на полі да 16—18 тыдняў, дзеля гэтага яго трэба рана сеяць. Салома або бадыльлё маку ня мае вялікшай вартасьці і можа быць патроху выкарыстана, як корм для авец.

*Я. Х.*

## Гуркі (Cucumis sativus).

Гуркі родам паходзяць з цёплых краёў, ад чаго насеньне іх дзеля прарастаньня патрабуе многа цяпла і сьвятла; высяваць трэба, калі ўжо мінуць раніцавыя прымаразкі, што ў нас бывае ў канцы траўня. На бяднейшых грунтох гуркі лепш сеяць на сьвежым угнаеньні, а на добрых перагнойных грунтох можна сеяць і бяз гною, хаця гуркі любяць некалькі вільготны грунт, каб ім сьвяціла цэлы дзень сонца і добра ідуць па сьвежым гнаі, але часта бывае, што на сьвежым угнаеньні больш растаць у лісьцё.

Раньнія пасевы гуркоў заўсёды лепш сеяць сухім насеньнем, бо мочанае, пасееўшы ў халодны грунт, часта загнівае і ня скора прарастае. Гуркі лепш за ўсё садзіць на радкох-грэбянёх, зробленых на грунце, бо гэныя радкі найлепш прыграваюцца.

Найчасьцей робіцца гэтак: у даўжыню грунту кладзецца валік з сьвежага гарачага (конскага) гною вышынёю да 20 сантымэтраў і шырынёю да 30—40 сантым. і ўсё гэта прывальваецца зямлёю. Наверсе гэтага грэбеня і садзяць гуркі, якія сеюцца зразу даволі густа, пасьля прарываюцца і калі яны маюць ужо 4 лісткі, дык робяць акучваньне, (абсыпаньне) і падчас, калі паявяцца плеці-вусікі, то іх распраўляюць на два бакі грэбеня і прышпільваюць да грунту, дзеля таго, што гуркі лёгка пускаюць дабавачнае ка-

рэньне. Часамі сеюць гуркі і на градах, дзеля чаго трэба зрабіць нібы раўчакі на градах, куды і высяваюць насеньне, зьлёгка прыкрываючы зямлёю; гэта робіцца дзеля таго, каб ухаваць іх ад халадоў. З штучных гнаёў пад гуркі ня шкодзіць даць якіх 1 кгр. супэрфасфату і грамаў 400 паташовае солі, лічачы на тры-чатыры квадр. мэтры.

Калі гуркі доўга цьвітуць пустацьветам, што пераважна бывае там, дзе зусім няма пчол, якія робяць апыленьне, дык трэба спыніць на колькі дзён паліўку, хаця-б гуркі трохі і прывялі—гэта не зашкодзіць. Апрача таго, каб прысьпяшыць завязь гуркоў, трэба сарваць адзін-другі цьвяток і гэнымі кветкамі датыркнуцца да кожнага цьвятка, што добра памагае апладатварэньню і хутчэй завязваюцца гуркі.

Трэба мець на ўвазе, што сьвежае насеньне гуркоў дае расьліны, якія вельмі моцна ідуць у рост лісьцьця і мала даюць гуркоў, дзеля чаго лепш садзіць 2—3 гадовым насеньнем, або калі насеньне сьвежае, то трэба добра яго падсушыць у хаце каля печы і тады сеяць.

На граду ў 20 мэтраў даўжыні патрабуецца да 20 грамаў насеньня. З аднаго гэктару збор гуркоў можа быць ад 500 да 4000 коп, што раўняецца больш-менш 1000—4000 пудоў.

Гатункаў гуркоў даволі многа, налічваецца больш як трыцаць, але найбольш вядомыя з іх:

**„Мурамскія“** — цэнны гатунак для ладнейшых грунтоў; гуркі раньнія, кароткія і ўраджайныя.

**„Манастырскія“**—добры гатунак да квашэньня, вытрымалыя на сушу і вільгаць; гуркі вялікія, цёмна-зялёныя.

**„Аксельскія“**—вельмі раньнія і ўраджайныя, вытрымалыя на халады.

**„Вязьнікоўскія“** — сярэдня - доўгія, зялёныя, ўраджайныя, добрыя для квашэньня.

**„Нежынскія“** — кароткія, раньнія, зялёныя, добра пераносяць жару і засуху, адны з найлепшых да квашэньня.

**„Літоўскія“** — растуць вельмі вялікія, цёмна-зялёныя з белымі палоскамі і як-бы бародавачкамі; не баяцца халадоў і сушы, добрыя да квашэньня.

**Варшаўскія-Ульрыха**, -- гуркі доўгія, цёмна-зялёныя з белымі палоскамі, ня хутка жоўкнуць.

**„Эксцэльсіор“** — новы гатунак амэрыканскі, раньні і ўраджайны, гуркі доўгія, ясна-зялёныя, як-бы з белымі кольцамі, у сярэдзіне маюць вельмі мала зярнят, надаюцца да квашэньня.

*Я. Х.*

## Сельска-гаспадарчыя работы на Сакавік м-ц.

Ачыстка падворка ад сьмяцьця. Рамонт і агляд с.-г. прыладаў. Будова скрынак для шпакоў. Загатоўка корму на разводзьдзе. Прыгатаваньне травяной мешаніны. Назіраньне за азіміной і адвод з яе вады. Проба на ўсхожасьць насеньня яравых хлябоў. Пералапачваньне хлеба ў арудах. Назіраньне і рамонт мастоў і платоў. Ачыстка сенажаці ад хмызьняку. Баранаваньне лугоў. Перабіраньне бульбы.

Злучаньне кабыл. Раскоўваньне на вясну коняй. Выкладваньне жарабцоў. Злучка кароў.

Пілаваньне дроў і бярвеньня на дошкі. Здыйм аховы з пладовых дрэваў. Утрамбоўваньне сьнегу каля дрэваў. Праца ў парніку.

# Аб усім патроху.

## Колькі каштавала вайна?

Апрача зруйнаваньня гаспадарчага жыцьця ўва ўсіх краёх, якія ваявалі і навет якія ў вайне ўдзелу ня бралі, вайна 1914—1918 забрала мільёны людзкога жыцьця.

І так:

| | было змобілізована | забіта | ранена |
|---|---|---|---|
| У Расеі | 12.000.000 | 1.800.000 | 3.500.000 |
| У Францыі | 8.200.000 | 1.336.000 | 2.560.000 |
| У Англіі | 9.500.000 | 945.000 | 2.120.000 |
| У Італіі | 5.600.000 | 497.000 | 950.000 |
| У Сэрбіі | 700.000 | 400.000 | 150.000 |
| У Румыніі | 1.000.000 | 250.000 | 170.000 |
| У Бэльгіі | 400.000 | 44.000 | 100.000 |
| У Амэрыцы | 4.200.000 | 500.000 | 240.000 |
| Другія дзяржавы | 600.000 | 60.000 | |
| У Нямеччыне | 13.210.000 | 1.885.000 | 4.249.000 |
| У Аўстрыі | 9.000.000 | 1.450.000 | 2.000.000 |
| У Турцыі | 1.800.000 | 450.000 | — |
| У Баўгарыі | 500.000 | 70.000 | 100.000 |

Усяго было змобілізована процiў Нямеччыны—42.200.000 салдатаў, з якіх згінула 5.408.000, ранена 9.910.000. Нямеччына і яе саюзьнікі змобілізавалі 24.550.000 салдатаў, згінула 3.855.000, ранена 7.023.000 чалавек.

Разам згінула 9.263.000 чалавек, ранена 16.933.000. А калі падумаем, што з ліку гэтых 17 мільёнаў раненых мала хто застаўся здольны да працы, дык відзім, якія вялікія страты панясло чалавецтва за вайну 1914—1918 г. Гэтыя лічбы павінны напужаць усіх, хто ізноў думае аб войнах. Новая вайна будзе яшчэ горшай і зусім зьнішчыць чалавецтва.

## Цікавы суд.

Амэрыканскі суд у Лёс-Анджэлёс разглядаў нядаўна справу за выраб водкі. А як ведама, ў Амэрыцы і піцьцё гарэлкі забаронена. На судзе была бутэлька гарэлкі, якую адабралі ў падсуднага. І вось калі прысяжныя засядацелі пашлі ў камэру, дзе мелі адказаць, ці вінен падсудны ці не, нейкім чынам туды папала з судовай салі тая самая бутэлька з гарэлкаю. Перад тым, як выказацца аб віне падсуднага, практычныя амэрыканцы, відаць, захацелі ўпэўніцца, ці ў бутэльцы гарэлка, а ну-ж вада там? І пачалі прабаваць. Так да дна і выпрабавалі.

Калі ўжо ў бутэльцы не аказалася гарэлкі ні каплі, падсуднага ня было за што судзіць і яго аднагалосна апраўдалі.

Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі.
Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3